**Віталь Гарматны**
(Мінск)

# Перыядызацыя вывучэння аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг.*

Вывучэнне аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. было і застаецца адным з важнейшых напрамкаў даследаванняў беларускай гістарычнай навукі. За апошнія некалькі дзесяцігоддзяў айчыннымі гісторыкамі зроблена значная праца па вывучэнню сацыяльна-эканамічнага развіцця Заходняй Беларусі пад уладаю Польшчы ў міжваенны перыяд, у першую чаргу па правядзенні польскімі ўладамі аграрных пераўтварэнняў, якія аказалі вялікі ўплыў на далейшае развіццё сельскай гаспадаркі азначанага рэгіёна[1].

Гістарыяграфія аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. развівалася ў адным рэчышчы з усёй беларускаю гістарычнаю навукаю, якая ў савецкі час знаходзілася ў поўнасцю падпарадкаваным становішчы ў адносінах да дзяржаўна-партыйнага апарату, паступова атаясамлівалася з дзяржаўнаю ідэалогіяй і вырашыла тыя ж самыя мэты і задачы. Сам працэс вывучэння і асвятлення ў гістарыяграфіі і навуковым перыядычным друку пытанняў аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі напрамую залежаў ад адносін да гэтай праблемы кіраўніцтва савецкай краіны, ад змянення грамадска-палітычнай сітуацыі ў СССР, што не магло не адбіцца адмоўным чынам на даследаванні азначанага пытання[2].

Працэс станаўлення і развіцця вывучэння аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі пад уладаю Польшчы (1921-1939 гг.) можна падзяліць на чатыры асноўныя перыяды:

1) Міжваенны, 1921-1939 гг. Пасля заключэння 18 сакавіка 1921 г. Рыжскай мірнай дамовы для савецкага кіраўніцтва паўстала задача вырашэння пытання аб Заходняй Беларусі, знаходжанне якой у складзе Польскай дзяржавы лічылася часоваю і вымушанаю з'явай[3]. Дзеля прапаганды ан-

* Артыкул выкананы ў рамках гранта Музея гісторыі Польшчы (Muzeum Historii Polski), Варшава, чэрвень 2010 г.

[1] А. М. Вабішчэвіч, *Заходнебеларускі перыяд 1920-30-х гадоў у сучасных даследаваннях айчынных гісторыкаў*, [у:] *Беларусь і Польшча ў XX стагоддзі: агульнае і адметнае ў гістарычных лёсах. Матэрыялы міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Брэст, БрДУ імя А. С. Пушкіна, 7-8 красавіка 2000 г.*, Брэст 2001, с. 3.

[2] А. А. Савіч, *Перыядызацыя вывучэння гісторыі Заходняй Беларусі*, [у:] *Берасцейскі хранограф: зборнік навуковых прац*, вып. 3, Брэст 2002, с. 378-379.

[3] В. Ц. Леанавец, А. А. Савіч, І. І. Шаўчук, *Да пытання вывучэння гісторыі Заходняй Беларусі ў 20-90-я гады*, [у:] *Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіц-*

тыпольскіх настрояў сярод мясцовага насельніцтва ўзнікла неабходнасць ідэалагічнага забеспячэння мерапрыемстваў па практычнай рэалізацыі намераў савецкага ўрада, таму ў гэты час усе кнігі, прысвечаныя Заходняй Беларусі, усе матэрыялы, якія змяшчаліся па дадзенай тэме ў цэнтральным друку, носяць яскрава акрэслены ідэалагічны характар[4]. Іх мэтаю быў паказ надзвычай цяжкага становішча заходнебеларускіх працоўных, зыходзячы з чаго ў тагачаснай літаратуры неаднаразова выказвалася думка аб неабходнасці як мага хутчэйшага разгортвання рэвалюцыйнага руху за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне Заходняй Беларусі і яе ўз'яднанне з БССР[5]. З такіх выданняў трэба адзначыць працу Фелікса Кона[6], якая носіць прапагандысцкі характар, але разам з тым у кнізе змешчаны шэраг цікавых звестак пра сацыяльна-эканамічнае развіццё Заходняй Беларусі ў азначаны перыяд.

З цягам часу ў савецкага кіраўніцтва ўзнікла неабходнасць ажыццяўлення больш актыўнай і грунтоўнай навуковай працы па вывучэнню гісторыі Заходняй Беларусі і Польшчы ўвогуле. Гэтыя задачы павінна была вырашыць Камісія па вывучэнню Заходняй Беларусі (КЗБ створана 28 лютага 1927 г., па іншых звестках у 1926 г.) спачатку пры Прэзідыуме Інбелкульта, потым пры АН БССР[7], якая выдавала Інфармацыйны бюлетэнь, а таксама створаны ў 1931 г. заходні сектар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б[8]. Аўтарамі навуковых публікацый, прысвечаных Заходняй Беларусі, сталі як прафесійныя гісторыкі, так і актыўныя ўдзельнікі і кіраўнікі заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху: Мікалай Арэхва, Лявон і Ян Бабровічы, Пётр Мятла, Ігнат Дварчанін, Леапольд Родзевіч, Браніслаў Тараш-

*ця заходняга рэгіёна Беларусі. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Брэст, 23-24 красавіка 1998 г. У 2 частках*, ч. 2, Брэст 1998, с. 296.

[4] А. А. Каваленя, *Да пытання ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР*, [у:] *Назаўсёды разам: гісторыя нацыянальна-дзяржаўнага аднаўлення Беларусі (да 65-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР). Матэрыялы Рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мінск, 28 верасня 2004 г.*, Мінск 2004, с. 43.

[5] В. А. Острога, *Историческая полонистика в БССР (1920-е гг.)*, [у:] *Проблемы внешней политики и безопасности. Беларусь-Польша: история и перспективы сотрудничества*, Минск 2009, с. 91; А. А. Савіч, *Некаторыя аспекты вывучэння ў 1920-1930-я гады гісторыі Заходняй Беларусі*, [у:] *Берасцейскі хранограф: зборнік навуковых прац*, вып. 2, Брэст 1999, с. 248-254; А. А.Савіч, *Перыядызацыя вывучэння гісторыі Заходняй Беларусі*, с. 380.

[6] Ф. Я. Кон, *Западная Белоруссия — колония панской Польши (к процессу над белорусской громадой)*, Москва 1928, 38 с.

[7] В. А. Астрога, *Вывучэнне польскай гісторыі на Беларусі (1921-1941 гг.)*, [у:] *Берасцейскі хранограф: зборнік навуковых прац*, вып. 2, Брэст 1999, с. 255.

[8] В. Ц. Леанавец, А. А. Савіч, І. І. Шаўчук, *Да пытання вывучэння гісторыі Заходняй Беларусі ў 20-90-я гады*, с. 296; А. А. Савіч, *Некаторыя аспекты вывучэння ў 1920-1930-я гады гісторыі Заходняй Беларусі*, с. 249.

кевіч і іншыя[9]. З гэтымі навуковымі ўстановамі ў 1920-1930-я гг. была звязана асноўная навуковая і выдавецкая праца па вывучэнню актуальных праблем сацыяльна-эканамічнага развіцця тагачаснай Заходняй Беларусі.

У 1933 г. у свет выйшла кніга Л. Гака[10], прысвечаная аграрнай палітыцы польскіх улад у тагачаснай Заходняй Беларусі, у якой даволі падрабязна, але разам з тым адназначна адмоўна, паказаны ўрадавыя аграрныя пераўтварэнні, якія, на думку аўтара кнігі, толькі яшчэ больш разаралі мясцовае сялянства. Кніга напісана на аснове даных перыядычнага друку II Рэчы Паспалітай і справаздач функцыянераў КПЗБ, без выкарыстання архіўнага матэрыялу, што рэзка зніжае навуковую вартасць азначанага даследавання.

У другой палове 1930-х гг. у Савецкім Саюзе ўзмацнілася ідэалагізацыя гістарычных даследаванняў, абсалютызацыя класавых падыходаў — айчынныя гісторыкі былі пастаўлены пад жорсткі ідэалагічны кантроль з боку УКП(б)[11]. На вывучэнне разглядаемых праблем сур'ёзны адбітак накладвала грамадска-палітычнае становішча ў краіне, асабліва палітычныя рэпрэсіі: шматлікія працэсы над „ворагамі народу", барацьба з „нацдэмамі" і г.д. Актыўным чысткам падвяргаліся навукова-даследчыцкія ўстановы БССР, так, у другой палове 1930-х гадоў усе ўстановы, якія займаліся даследаваннем гісторыі Заходняй Беларусі (найперш за ўсё Камісія па вывучэнню Заходняй Беларусі) былі ліквідаваны, а іх работнікі абвінавачаны... у шпіянажы на карысць Польшчы і рэпрэсаваны[12]. Усё гэта, а таксама роспуск Камінтэрнам па ўказцы ЦК УКП(б) у 1938 г. Камуністычнай партыі Польшчы (КПП) і яе складаючых частак КПЗБ і КПЗУ па ілжывым абвінавачванні ў тым, што кіраўніцтва КПП быццам бы захоплена агентамі польскай разведкі, спрычынілася да таго, што вывучэнне гісторыі Заходняй Беларусі звузілася да канстатацыі ў схематычнай форме прычын узнікнення і працэсу станаўлення і развіцця рэвалюцыйнага руху[13];

2) Наступны этап даследванняў прыпадае на 1940-я — першую палову 1950-х гадоў. Асаблівы ўсплёск гістарычных даследаванняў, прысвечаных развіццю сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. і наогул гісторыі Заходняй Беларусі, адбыўся ў 1939-1940 гг.[14], але ўсе

[9] В. Астрога, *„Шпіёнскае гняздо": стварэнне і дзейнасць Камісіі па вывучэнню Заходняй Беларусі (1927-1937 гг.)*, „Спадчына", 1996, № 6, с. 159-160.

[10] Л. Гак, *Аграрная палітыка польскай буржуазіі ў Заходняй Беларусі*, Мінск 1933, 95 с.

[11] А. А. Савіч, *Перыядызацыя вывучэння гісторыі Заходняй Беларусі*, с. 381.

[12] В. Астрога, *„Шпіёнскае гняздо"...*, „Спадчына", 1996, № 6, с. 165-167.

[13] И. П. Ховратович, *Историография КПЗБ и революционного движения в Западной Беларуси*, [у:] *В авангарде революционной борьбы. Материалы научно-теоретической конференции, посвященной 50-летию образования КПЗБ и КСМЗБ, 9 ноября 1973 г.*, Минск 1974, с. 128.

[14] С. В. Грачёв, *Историография истории аграрного вопроса в Западной Беларуси*,

яны насілі „заказны” характар: ідэалагічна абгрунтаваць неабходнасць ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад БССР, і былі пераважна навукова-папулярнымі. З азначаных прац трэба асабліва адзначыць працу Іосіфа Лочмеля з характэрнаю назваю „Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов”[15], у якой аграрная гісторыя Заходняй Беларусі міжваеннага перыяду паказана з выключна негатыўнага боку.

Разам з тым, неабходна падкрэсліць, што вывучэнне аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай у гэты перыяд у беларускай гістарыяграфіі значна запаволілася, што было абумоўлена недаверам вышэйшых колаў Савецкага Саюза да КПЗБ. У айчыннай навуковай літаратуры канца 1930-х — пачатку 1950-х гадоў пры разглядзе праблем аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі пад уладаю Польшчы назіраўся схематызм і аднабаковасць, значна перабольшвалася стыхійнасць і рэвалюцыйнасць працоўных мас, падкрэслівалася актыўная дзейнасць і ўплыў КПЗБ сярод мясцовага малазямельнага і беззямельнага сялянства[16];

3) Трэці перыяд — другая палова 1950-х гадоў — 1980-я гады — стаў самым плённым і выніковым у вывучэнні аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. Рэабілітацыя пасля ХХ з’езду КПСС (1956 г.) Кампартыі Польшчы і яе складаючых частак КПЗБ і КПЗУ дала магутны штуршок для навуковага даследавання актуальных на той час пытанняў гісторыі Заходняй Беларусі і, у першую чаргу, гісторыі КПЗБ. У 1964 г. у часопісе „Коммунист” (орган ЦК КПСС) пабачыў свет праграмны артыкул „За правильное освещение истории Компартии Западной Белоруссии”[17], у якім з КПЗБ былі зняты ўсе абвінавачванні і выкладзены асноўныя метадалагічныя падыходы да вывучэння гісторыі КПЗБ, што ў той час было аднназначна і да даследавання ўсёй гісторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг.

Гісторыка-партыйная тэматыка стала дамінуючай у навукова-гуманітарнай сферы тагачаснай БССР. Рэвалюцыйная дзейнасць КПЗБ і звязаныя з ёю пытанні сацыяльна-эканамічнай гісторыі Заходняй Беларусі пачалі ўключацца ў планы навукова-даследчыцкай працы Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Інстытута гісторыі АН БССР, шэрагу кафедр ВНУ рэспублікі[18]. На падставе абароненых кандыдацкіх і доктарскіх ды-

[у:] *Сучасныя праблемы гістарыяграфіі гісторыі: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, 28 лістапада 2003 г. У 3 частках*, ч. 2, Мінск 2003, с. 466.

[15] І. Ф. Лочмель, *Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов*, Москва 1940, 164 с.

[16] А. А. Савіч, *Перыядызацыя вывучэння гісторыі Заходняй Беларусі*, с. 381.

[17] *За правильное освещение истории Компартии Западной Белоруссии*, „Коммунист”, 1964, № 8, с. 68-79.

[18] А. М. Вабішчэвіч, *З гістарыяграфіі заходнебеларускай праблематыкі (другая палова 1950-х — 80-я гг.)*, [у:] *А. М. Мацко — грамадскі дзеяч, вучоны, педагог (да 80-годдзя з дня нараджэння). Матэрыялы Рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мінск, 15 кастрычніка 2004 г.*, Мінск 2005, с. 47.

сертацый было выдадзена шмат манаграфій, навуковых і навукова-папулярных артыкулаў у перыядычных выданнях і мясцовай прэсе, але пануючая ў краіне ў навуковай сферы падкантрольнасць даследчыкаў дзяржаўным органам і заідэілагізаванасць значна абмяжоўвалі магчымасці айчынных гісторыкаў па вывучэнню пытанняў развіцця сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай (1921-1939 гг.)[19].

Сярод выдадзеных у гэты перыяд даследаванняў трэба станоўча адзначыць грунтоўныя працы Б. Я. Кухарава[20] і асабліва А. А. Сарокіна[21], у якіх на базе шматлікіх крыніц паказаны разнастайныя аспекты развіцця сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг., але таксама адназначна адмоўна[22]. У рамках пануючай у афіцыйнай гістарычнай навуцы марксісцка-ленінскай метадалогіі асноўная ўвага айчынных навукоўцаў надавалася барацьбе працоўных мас Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам КПЗБ за свае грамадска-палітычныя правы і паляпшэнне матэрыяльнага становішча[23]. Сярод такіх прац неабходна асабліва адзначыць манаграфіі Аляксандра Мацко[24], Івана і Уладзі-

[19] А. А. Савіч, *Перыядызацыя вывучэння гісторыі Заходняй Беларусі*, с. 382.

[20] Б. Я. Кухараў, *Аграрны крызіс Заходняй Беларусі і яго абвастрэнне (1929-1933 гг.)*, „Весці Акадэміі Навук Беларускай ССР. Серыя гуманітарных навук", 1967, № 1, с. 58-65; Б. Е. Кухарев, *Сельское хозяйство Западной Белоруссии (1919-1939 гг.)*, Минск 1975, 112 с.

[21] А. А. Сорокин, *Аграрная политика буржуазно-помещичьей Польши и обезземеливание крестьянства Западной Белоруссии (1920-1939 гг.)*, [у:] *В единой семье советских народов. Материалы Республиканской межвузовской научной конференции, посвященной 30-летию воссоединения белорусского народа в единое Советское социалистическое государство*, Минск 1970, с. 89-101; А. А. Сорокин, *Аграрный вопрос в Западной Белоруссии (1920-1939 гг.)*, Минск 1968, 204 с.; А. А. Сорокин, *Освободительное и революционное крестьянское движение в Западной Белоруссии (1920-1939 гг.)*, Минск 1970, 172 с.

[22] А. А. Каваленя, *Да пытання ўз'яднання Заходняй Беларусі...*, с. 46.

[23] С. В. Грачёв, *Освободительное движение в Западной Беларуси (историография проблемы)*, [у:] *Беларуская дзяржаўнасць: вопыт XX стагоддзя. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, Мінск, БДПУ імя М. Танка, 18-19 красавіка 2003 г.*, Мінск 2004, с. 79; И. П. Ховратович, *Историография КПЗБ...*, с. 135.

[24] А. М. Вабішчэвіч, *З гістарыяграфіі заходнебеларускай праблематыкі...*, с. 47; В. Ф. Касович, *А. М. Мацко — исследователь борьбы трудящихся Польши и Западной Белоруссии против фашизма, гнета буржуазии и помещиков*, [у:] *А. М. Мацко — грамадскі дзеяч, вучоны, педагог (да 80-годдзя з дня нараджэння). Матэрыялы Рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мінск, 15 кастрычніка 2004 г.*, Мінск 2005, с. 20-23; У. Ф. Ладысеў, *А. М. Мацко як даследчык праблем гісторыі міжваеннай Польшчы*, [у:] *А. М. Мацко — грамадскі дзеяч, вучоны, педагог (да 80-годдзя з дня нараджэння). Матэрыялы Рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мінск, 15 кастрычніка 2004 г.*, Мінск 2005, с. 54-58; А. Н. Мацко, *Борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против фашизма (1933-1939 гг.)*, Минск 1963, 205 с.; А. Н. Мацко, *Революционная борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против гнёта буржуазии и помещиков (1918-1939 гг.)*, Минск 1972, 336 с.

міра Палуянаў[25], але разам з тым трэба падкрэсліць, што пры разглядзе савецкімі даследчыкамі пытанняў руху працоўных мас Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. на першае месца заўсёды ставіліся рабочы рух і матэрыяльнае становішча рабочых[26], нягледзячы на тое, што больш 80% заходнебеларускага насельніцтва ў гэты час складала менавіта сялянства.

З другой паловы 1980-х гг. даследаванне аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. прыкметна запаволілася, што было звязана з агульным метадалагічным крызісам савецкай гістарычнай навукі[27];

4) На якасна новы ўзровень выйшла гістарычная навука Беларусі пасля набыцця краінай дзяржаўнай незалежнасці, дзякуючы чаму яна пазбавілася ідэалагічнага кантролю і ўціску з боку партыйных органаў. З пачатку 1990-х гадоў адбываліся істотныя зрухі ў аграрнай гістарыяграфіі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг., якія звязаны з адыходам ад пануючай класавай метадалогіі, увядзеннем у навуковы абарот новых, раней невыкарыстаных архіўных матэрыялаў і крыніц[28]. Пытанні гісторыі Заходняй Беларусі сталі разглядацца ў кантэксце больш шырокіх тэм — замест пануючага вывучэння нацыянальна-вызваленчага руху і дзейнасці КПЗБ цяпер сталі больш падрабязна і ўсебакова даследавацца пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёна, маёмасны і прававы стан заходнебеларускага сялянства, працэсы яго маёмаснай дыферэнцыяцыі[29].

У сувязі з гэтым неабходна станоўча адзначыць артыкул доктара гістарычных навук, прафесара Белдзяржуніверсітэта Пятра Зялінскага[30], які стаў першым з сучасных айчынных даследчыкаў, хто звярнуўся да

[25] У. А. Палуян, *Беларуская сялянска-рабочая грамада*, Мінск 1967, 224 с.; В. А. Полуян, *Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927-1939 гг.)*, Минск 1978, 360 с.; В. А. Полуян, И. В. Полуян, *Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920-1939 гг.*, Минск 1962, 224 с.; И. В. Полуян, *Западная Белоруссия в период экономического кризиса 1929-1933 гг.*, Минск 1991, 207 с.

[26] А. А. Савіч, *Некаторыя аспекты вывучэння ў 1920-1930-я гады гісторыі Заходняй Беларусі*, с. 252.

[27] В. Ф. Кушнер, *Асвятленне гісторыі Заходняй Беларусі 1921-1941 гг. у сучаснай беларускай гістарыяграфіі*, [у:] *Праблемы ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы Міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, 17-18 верасня 1999 г., Мінск, БДУ*, Мінск 2000, с. 296.

[28] С. М. Ходзін, *Беларускае сялянства ў 1921-1939 гг.: гістарыяграфія, крыніцы, метады вывучэння*, „Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 3. Гісторыя", 2009, № 1, с. 24-25.

[29] А. М. Вабішчэвіч, *Заходнебеларускі перыяд 1920-30-х гадоў...*, с. 3-8; *Эканамічная гісторыя Беларусі: курс лекцый*, пад агульнай рэдакцыяй В. І. Галубовіча, Мінск 1993, с. 192-197.

[30] П. І. Зялінскі, *Аграрная рэформа ў Заходняй Беларусі (1919-1939 гг.)*, [у:] *Праблемы ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі 17-18 верасня 1999 года, Мінск, БДУ*, Мінск 2000, с. 24-30.

пытання правядзення польскімі ўладамі аграрнай рэформы на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг., паказаў яе асноўныя складаючыя часткі, рэалізацыю і галоўныя вынікі, разгледзеў многія раней недаследаваныя старонкі аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. Азначаны артыкул напісаны навукова нейтральна, з выкарыстаннем архіўных дакументаў і даследаванняў замежных гісторыкаў.

У навуковым артыкуле даследчыцы А. А. Цітовай разгледжана стаўленне заходнебеларускіх сеймавых паслоў (дэпутатаў) у 1922-1935 гг. да пытання ажыццяўлення аграрнай рэформы[31]. Аўтарка неаднаразова падкрэслівае, што прадстаўнікі ад Заходняй Беларусі, перш за ўсё Браніслаў Тарашкевіч, выступалі супраць насаджэння на землях рэгіёна вайсковых асаднікаў і аказання ім матэрыяльнай дапамогі, за надзяленне зямлёю малазямельных сялян і г.д., але іх меркаванні не былі пачуты правацэнтрысцкаю большасцю Сейма II Рэчы Паспалітай.

У калектыўнай манаграфіі „Экономическая мысль Западной Беларуси в 1921-1939 гг.”[32] разгледжаны асноўныя праекты аграрнай рэформы і іх абмеркаванне ў грамадскай думцы II Рэчы Паспалітай, дыскусія на старонках тагачаснага перыядычнага друку аб напрамках развіцця сельскай гаспадаркі рэгіёна, паказаны адносіны разнастайных колаў грамадства да ажыццяўлення ў Заходняй Беларусі ўрадавай аграрнай палітыкі і г.д.

Сярод сучасных айчынных гісторыкаў пытаннямі аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. займаюцца перш за ўсё Алена Вырастка (Сцяпанава)[33], Віталь Гарматны[34] і Сяргей Грэсь[35], у працах якіх раскры-

[31] А. Цітова, *Беларускі дэпутацкі клуб і праблема аграрнай рэформы ў польскім Сейме ў 1922-1935 гг.*, [у:] *Беларусіка-Albaruthenica: Кн. 3. Нацыянальныя і рэлігійныя культуры, іх узаемадзеянне*, Мінск 1994, с. 269-276.

[32] *Экономическая мысль в Западной Беларуси в 1921-1939 гг.*, научн. ред. П. Г. Никитенко, Минск 2004, 158 с.

[33] А. Ф. Вырастка (Сцяпанава), *Асноўныя падыходы беларускай гістарыяграфіі да праблемы ваеннага і цывільнага асадніцтва на „крэсах усходніх”*, [у:] *Грамадскія рухі і палітычныя партыі ў Беларусі (апошняя чвэрць XIX — пачатак XXI стст.). Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі (Гродна, 23-24 кастрычніка 2008 г.)*, Гродна 2009, с. 220-223; А. Ф. Вырастка, *Праблема асадніцтва ў беларускай гістарыяграфіі 20-40-х гг. XX ст.*, [у:] *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі, новай і навейшай гісторыі краін Еўропы і ЗША: матэрыялы Рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, г. Мінск, 28 сакавіка 2008 г. У 2 частках*, ч. 2: *Гістарыяграфія новай і навейшай гісторыі краін Еўропы і ЗША: даследаванні, праблемы, пошукі*, Мінск 2008, с. 65-67.

[34] В. П. Гарматны, *Гістарыяграфія аграрнай рэформы на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг.*, [у:] *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі, новай і навейшай гісторыі краін Еўропы і ЗША: матэрыялы Рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, г. Мінск, 28 сакавіка 2008 г. У 2 частках*, ч. 2: *Гістарыяграфія новай і навейшай гісторыі краін Еўропы і ЗША: даследаванні, праблемы, пошукі*, Мінск 2008, с. 62-65.

[35] С. М. Грэсь, *Да праблематыкі аграрнага пытання ў айчыннай гістарыяграфіі*

ты шматлікія аспекты аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў складзе II Рэчы Паспалітай, у тым ліку разглядаецца і гістарыяграфія азначанага пытання.

Такім чынам, у вывучэнні аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў складзе II Рэчы Паспалітай (1921-1939 гг.) мэтазгодна выдзеліць чатыры наступныя асноўныя перыяды: 1) міжваенны, 1921-1939 гг.; 2) 1940-я — першая палова 1950-х гг.; 3) другая палова 1950-х — 1980-я гг.; 4) сучасны, пасля 1991 г. Неабходна адзначыць, што прадстаўнікі савецкай гістарыяграфіі ацэньвалі аграрныя пераўтварэнні польскіх улад на землях Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд адназначна негатыўна і падкрэслівалі, што яны вялі толькі да дальнейшага разарэння мясцовых сялян і абвастрэння ў вёсцы класавай барацьбы. На сучасным этапе сярод беларускіх гісторыкаў ідуць вострыя дыскусіі наконт эканамічнага становішча заходнебеларускіх зямель у складзе Польскай дзяржавы. Частка гісторыкаў імкнецца разбурыць стэрэатыпы, створаныя савецкімі гісторыкамі аб каланіяльным становішчы Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы, і даказвае, што не ўсё было так дрэнна на „Крэсах Усходніх”, звяртае ўвагу на тое, што некаторая эканамічная адсталасць Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. у параўнанні з карэннай Польшчай выкліканы не столькі эканамічнай палітыкай польскага ўрада, колькі мясцовымі асаблівасцямі рэгіёна (у першую чаргу прыроднымі ўмовамі) і аграрнай палітыкай папярэдніх улад.

Урадавыя колы Польшчы ставілі сваёй задачаю уніфікаваць параўнаўча адсталыя ў эканамічных адносінах усходнія ваяводствы і падцягнуць іх да ўзроўню больш развітых цэнтральных і заходніх рэгіёнаў краіны, паставіць сельскую гаспадарку „Крэсаў Усходніх” на аснову капіталістычных адносін і пераарыентаваць яе на рынак, стварыць адзіны ўнутраны рынак, менавіта з гэтаю мэтаю ў II Рэчы Паспалітай праводзілася сістэмныя аграрныя пераўтварэнні, якія не былі даведзены да канца з-за пачатку Другой Сусветнай вайны (1939-1945 гг.), але аказалі значны ўплыў на далейшае сельскагаспадарчае развіццё рэгіёна.

Варта адзначыць, што на сённяшні час пакуль адсутнічаюць грунтоўныя навуковыя даследаванні з параўнаўчым аналізам па асноўных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця Заходняй Беларусі і БССР у 1921-1939 гг., што дапамагло б вырашыць многія спрэчныя пытанні айчыннай гістарыяграфіі. Разам з тым, неабходна падкрэсліць, што нягледзячы на ўсе цяжкасці, у міжваенны перыяд у заходнебеларускай вёсцы ішоў паступовы працэс умацавання індывідуальных сялянскіх

*гісторыі Заходняй Беларусі*, [у:] *Сучасныя праблемы гістарыяграфіі гісторыі: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, 28 лістапада 2003 г. У 3 частках*, ч. 2, Мінск 2003, с. 463-465.

гаспадарак, захоўваўся працоўны ўклад і стымуляванне эканамічна моцнай часткі сялянства, дзякуючы чаму аднавілася мясцовая сельская гаспадарка і ў 1930-я гады ў Заходняй Беларусі назіралася адносна высокая эфектыўнасць аграрнай вытворчасці і даволі высокая ўраджайнасць асноўных сельскагаспадарчых культур, у той час як у БССР імклівымі тэмпамі ішло рассяляньванне вёскі падчас правядзення калектывізацыі. Такім чынам, многія актуальныя пытанні аграрнай гісторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг. застаюцца яшчэ недастаткова вывучанымі і патрабуюць большай увагі з боку айчынных даследчыкаў.

**Wital Harmatny** — magister historii, doktorant w Katedrze Historii Najnowszej Białorusi Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku.